УЛАДЗІМІР МІНАВІЧ МАЗГО
НАРАДЗІЎСЯ Ў 1959 ГОДЗЕ
Ў ГАРАДСКІМ ПАСЁЛКУ ЗЭЛЬВА
НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ.
СКОНЧЫЎ ЗЭЛЬВЕНСКУЮ
СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ РАБОЧАЙ МОЛАДЗІ.
ПРАЦАВАЎ КАРЭСПАНДЭНТАМ
РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ Ў ХОЙНІКАХ.
СЛУЖЫЎ У САВЕЦКАЙ АРМІІ.
ЗАВОЧНА ЗАЙМАЕЦЦА
НА ФІЛФАКУ БДУ імя У. І. ЛЕНІНА
І АДНАЧАСОВА ПРАЦУЕ
КАРЭСПАНДЭНТАМ
ШМАТТЫРАЖНАЙ ГАЗЕТЫ «ІНТЭГРАЛ».
ДРУКАВАЎСЯ Ў РЭСПУБЛІКАНСКІХ
ЧАСОПІСАХ І ГАЗЕТАХ,
ЗБОРНІКАХ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ», «ВЁСНЫ».

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Уладзімір
Мазго

# ПАД СПЕЎ КРЫНІЦ

**Вершы і балады**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

* * *

Пазычу колеры ў вясёлкі,
Цяпло пазычу у агню.
Пасля
у прынёманскім пасёлку
Закалыхаю цішыню.
Закалыхаю песняй новай,
Прайдуся па былых слядах.
...Няхай у сэрцы спеюць словы,
Як спеюць яблыкі ў садах.

## УСПАМІН

Вітаў —
Ускрылены хлапчук —
Нябёс і траў хаўрус,
Калі
збалелаю
адчуў
Душою:
— Беларус!
Вясна сібірская да нас
Прыйшла ва ўсёй красе...
Зацяў дыханне першы клас.
Дзёўб шыбу грыбасей.
І раптам —
Радасцю дарог

2 Зак. 2213

Азваўся крыкам птах.
Стралой ляцеў я за парог.
Узмах,
узмах,
узмах...
Гусей палескіх чарада
Кружыла ля бяроз.
А я —
Ледзь-ледзь не зарыдаў,
Расчулены да слёз.
Іх лашчыў позірк мой
І слых.
А крык удалеч плыў...

* * *

Мне зноў на хвілю
Прычасціцца
Кедровым водарам тайгі
І прагным позіркам упіцца
У белакрылыя снягі.
У трубку выдыхнуць:
— А-лён-ка!!!
Тайга адклікнецца:
— А-лё...
Там,
Дзе ў залапленых валёнках
Маленства бегала маё...
Завея сцелецца абрусам.
А ў Гродна птах панёс вясну.
...Па ўсёй Сібіры
Беларусам
У хвілю гэту не да сну.

## БЕЛАЯ ЛІЛЕЯ

...Белая лілея
У тваёй руцэ.
І ўсё наваколле,
Нібы ў малацэ.
Ці туман раптоўны
Выплыў на палі?
Ці забыўся поўню
Вечар запаліць?..
Не, усё не гэта.
Нібы напаказ,
Спелай думкай
Лета
Каласіцца ў нас.
А на сэрцы завязь
Ліпеньскіх надзей.
...Адцвіла лілея
На рачной вадзе.

* * *

Застылі
Здзіўлена з табой
Між золата
Прысад:
Лістота
Льецца над зямлёй
Ці з неба —
Зарапад?..

* * *

Упушчана шчасця жар-птушка
З выраем вераснёвым.
І гэта ужо не нова —
У сэрцы надзею гушкаць.
Твае развітальныя рухі
Мне помняцца да драбніц...
Шкада:
Успамінаў ніць
Узвей абарваў завірухі.

ГРЫБАСЕЙ

Пераграэты,
Бор зрасеў.
Сонца долы плужыць.
Басаножыць
Грыбасей
Пастушком па лужах.
Анічога не кажу.
У душы — дзіўлюся:
Сонца зыркае
З дажджу
Строіць кпіны, мусіць.
Ён жа —
Крыўды на пасля! —
З клопатам адзіным:
— Болей беленькіх, зямля!..—
Шпарыць паўгадзіны
Упрысядку
Па карчах

Пад грамоў трубою.
Пахіснуўся у вачах
Лес грыбным прыбоем.
Аблажыла
На вярсту
Ліўнямі паляну.
І — здаецца —
Сам расту.

## СУЛАДДЗЕ

Стаю зацяты,
нібы на паверцы,
Калі струменіць
сонечным дажджом.
Замрэ на хвілю —
у здзіўленні — сэрца
І адгукнецца
звонкім капяжом.
А вочы афарбуюцца блакітам,
Як тыя
сілуэты азярын...
Праб'ецца песняй
з глыбіні нябыту
Звон ручая
на ўзлеску Кузяры...

## БЯРОЗАВАМУ ГАЮ

За руку,
як таго хлапчука,
Павядзі верасоваю сцежкай.
Дзе падлеткам,
Як пропуск, шукаў
Між бяроз
Лесніковую цэшку.
З той пары
Уцякло шмат вады.
Пастарэлі
Варожкі-зязюлі.
Над табой прашумеўшы,
Гады
Твой загадкавы твар
Не кранулі.
А суседні раўчук
Абмялеў,
Што купаў тваіх донек
Дрыготкіх.
Як я дзіўна тады захмялеў
Тваім сокам
Мядова-салодкім...
Вусны зноў
Прыпадуць ад тугі
К набрынялым нектарам
Галінам.
Я прашу цябе,
гай дарагі:
У дзяцінства вярні —
На хвіліну...

## ЗЯЛЬВЯНКА

Зяльвянка...
Змалку гэта слова
Пяшчотнае, як дотык траў,
Журчыць мне матчынаю мовай,
Непадуладнаю вятрам.
Свой набіраючы разбег,
Вірыць штовесну абнаўленнем,
І сэрца поўніцца натхненнем,
Бы плоткамі рыбацкі мех.
На ёй дрымотныя стагоддзі,
Як хмары чорныя сплылі.
Цяпер бурштынныя палі
Калосяць шчасцем у народзе...
Наўсцяж асушаны балоты,
Я ж, быццам, памяць асушыў...
А ты, Зяльвянка,
Помніш дотык —
Вясла юнацкае душы?..

* * *

Для равеснікаў
Вайна —
Кніжнымі старонкамі.
У акопах цішыня
Расцвіла рамонкамі.

І чаму, май-чарадзей,
Ные, як ад ранаў,
Вострым болем

Кожны дзень
Сэрца ветэрана?

Сувязістам
Праз гады
Памяць працягнула
Успаміны-правады
Сувязі з мінулым.

## РОДНАЯ МОВА

*Ларысе Геніюш*

— Ты адкуль бруішся,
Мова?..
— З сініх нёманскіх крыніц...
Па зямлі збіраю словы,
Нібы россыпы суніц.

Мілая, адзіная,
Нам, нашчадкам,
Дадзена
Любаю радзімаю
Ад дзядоў і прадзедаў.

Хай вядзьмярацъ
Навальніцы,
Снегападаў касякі,
А табе вякі бруіцца —
А затым —
Яшчэ вякі!..

## ДУБ

Ён стаіць бывалым партызанам
З непакорнай гордай галавой.
Тройчы перунамі расстраляны
Волат-дуб, наднёманскі герой.
Дрэмле зорнай ноччу над барамі
Бессмяротны, вечна малады...
І для нас нябачна жалудамі
Атрасае на мурог гады.

* * *

Усё бліжэй да мамы,
Дзе памяць босых ног
Аброшана таксама
Аб ранішні мурог.
Вось-вось яна прачнецца.
Пакліча бацьку:
— Міш...
А памяць
Разаб'ецца
Аб надмагільны крыж.

* * *

У лесе цішыня такая:
Чуваць, як дыхае кара.
Зязюля толькі ўсё гукае
Тых, што паснулі у барах.

Лес і цяпер да болю помніць
Снарадаў стогн і куляў віск.
...Як расстралянай цішы помнік,
Стаіць у полі абеліск.

## МАЦЯРЫНСКАЯ ВЕРА

«Я вярнуся, матуля!
Я вярнуся. Ты вер!
Хоць гады — не зязюлі —
Кулі лічаць цяпер...»
Ноч байца напаткала
За апошнім радком.
Валкай стомай памалу
Сон падходзіць крадком.
Сніць: расчынены дзверы
У родны сэрцу дамок.
Шэпт матулі:
— Я веру!
Чуеш? Веру, сынок!..
...Акрываўлены верас.
Забыццё, як імгла...
Мацярынская вера
Сыну сілу дала.

## СЛАВЯНКІ

Абудзілі славянкі
Сонны бераг Зяльвянкі.
Верным рыцарам коней
Купалі каханкі.

Гэтых вояў ля дома,
У стаптаны мурог
З сёдлаў выбіла стома
Стралою дарог.

У славянак адвечна
З васількамі вачэй,
На рамонкавых плечах
Бяссонне начэй.

Глянь: імклівай Зяльвянкай,
Хуткай плынню ракі
Выплываюць славянкі
Проста ў нашы вякі...

## НА БЯРЭЖКАЎСКІМ ВОЗЕРЫ

Воблакі,
як белыя буслы,
Адлятаюць недзе
на змярканні,
Толькі адзінока
два вяслы
Каля чоўна стынуць
у чаканні.
Хвалі ўсчубіў
вецер баравы,
Не самохаць,—
з выпадку расстання.
...І такая ціша,
што травы
Праз падэшвы
чуеш прарастанне.

* * *

Усімі травамі прапах
Расянымі, мурожнымі,
І сам зрабіўся, як капа,
Паміж рудымі пожнямі.

Дзе за пракосамі пракос
Шугаў наўсцяж да Рэчыцы,
Дажджынкі, паўшыя наўскос,
Здаліся недарэчнасцю.

І ўсё ж пакліча сенажаць
З касой
 услед за промнямі.
...А тых, што стоена ляжаць
Пад безыменным помнікам?

* * *

Я не магу
Душою ачарсцвець.
Я не магу
Мінулага забыцца,
Калі штодня
Звіняць яе званіцы...
Вы чуеце:
Хатыні плача медзь!..

## АПРАЎДАННЕ ЖЫЦЦЯ

*Васілю Быкаву*

Сцяжына
Сягае да гаю,
А там —
Супрацьтанкавы роў.
Абрыў...
І ўзыход дагарае
Крывёю
Палеглых сяброў.
Дажыць да світання! —
Каб потым
Вярнуцца
У свой батальён.
...Казыча падэшвы
Праз боты
Нашчадкам
Пасеяны
Лён.

* * *

Нас два гады чакаюць тоні,
Азёры роднай стараны...
Не нам
Кляновыя далоні
Кладуць на плечы курганы.

Да іх заўсёды я вярнуся,
Пакуль ёсць зрок,
Пакуль ёсць слых.

Пакуль яшчэ
над Белай Руссю
Бялеюць
белыя
буслы...

## НА ПАСТУ

— Стой, хто ідзе?..
— Ідзе Вясна...
Злагоднеў зрок салдата.
Радзімай пахне баразна,
Сасна — бацькоўскай хатай.

А полю мроіцца загар
Ад рук тваіх шурпатых.
Казычуць камбайнераў твар —
У памяці — зярняты.

А ты сціскаеш аўтамат
Ад радасці і болю.
Ты сёння —
Сейбіт і салдат —
У прадчуванні бою.

Праходзь,
Шаноўная Вясна!..
Насуперак уставам,
Паходкай лёгкаю
Няўзнак
Любуецца застава.

* * *

Ці дождж, ці пот —
Не зразумець —
Тваё чало абросіць.
А недзе
Лісцяная медзь
Адзвоньвае у Росі.

Цкуюць варожую гайню.
Але пільней глядзім мы...
Бяроза выбегла з агню,
Прапахлая Радзімай.

## НА ВУЧЭННЯХ

Дрыготкай цішы парашут
Павіс
Над танкадромам.
Шматкуюць
Нечыю душу
Скупыя ўдары грому.

Адсутнасць слоў
Даруеш мне,
Маўклівая,
Сама ты.
За мір,
Насуперак вайне,
Спрачаюцца гарматы.

* * *

Адкрываем сябе
Кожны раз,
Нібы дзіва:
У вясновай сяўбе,
У жніве клапатлівым,
У раптоўнай бядзе,
У тугім караваі...
Мы сябе кожны дзень —
Пакрысе
Адкрываем...

* * *

*Байцам студэнцкага будаўнічага атрада «Мара-77»*

Зялёны скарб —
Гарошак,
Малдавія, грузі!..
У Нёмане язі
Хай пасваволяць трошкі.
І што з таго,
Што — дваццаць
На маладых плячах.
Вугельчыкам-вачам
Журбой не разгарацца.
Усмешна-маладым,
Шчыруе першы будзень.
І лівень не астудзіць
Сцюдзёнасцю вады.

І сонца не спапеліць,
Не выкрасляць грамы,—
Пакуль сваё не спелі,
Не збудавалі мы...

* * *

Ля Бендэраў
Крэпасць утравела,
Нібы перасмяглая рака.
Нават бусел
Кружыцца нясмела:
Не ў аблоках блудзіць —
У вяках...

## СУСТРЭЧА З МОРАМ

«Нічога людскога!..» —
Падумаў з адчаем.
А мора зірнула
Тваімі вачамі.

А мора адзела
У хвалі пяшчоты.
Магніціла цела
Аб сонечны дотык.

І я пакахаў яго
Моцна, трывала.

Яно караблі
Маіх дум загайдала.

Напеў кіпарысаў
Струменіла вечнасць.
Адкінула выспы
Назад,
Быццам плечы...

А што памыліўся —
Прабачыць няцяжка:
На свет нарадзіўся,
На жаль,—
не ў цяльняшцы.

## ТРЭЦІ СЕМЕСТР

Мы здавалі залік —
І жніву,
І будоўлі...
Свярбяць мазалі
Уласнай гадоўлі.
Пад песні і рогат
(Атрадны маэстра!),
Спрыяла дарога
Задумам семестра.
Тут хлопцы, няйначай,
Крутога завару:
З дыханнем гарачым
Малдаўская вара [1]...

[1] Лета *(малд.)*.

Паперы цалік...
А пара, што настала,
Прымае залік
У нашчадкаў —
На сталасць...

## ВАСІЛЮ СКАРЫНЕ

Крані стагоддзяў карані,
Адкуль твае вытокі.
А лёс
Два лёсы парадніў
І прозвішчы, і крокі.
І ты — філолаг —
Нездарма
Штодня гартаеш кніжкі:
Навекі вырваўся з ярма
Пакутны кут Францішка...
Радок — ад жыта трапяткі,
Бадкі — ад рог зубрыных...
Друкуй уласныя радкі,
Калі у іх — Скарына.

## ПОРТ. РАЗГРУЗКА БАНАНАЎ

Прыгорбіліся краны
Пад імпартнаю ношай.
У бляклай гладзі
Ранак глядзіцца:

Ці харошы.
Мы тут даўно не госці.
На суднах гаспадарым.
Мяхі туманных просцін
Бананамі затарым.
Чародамі насілак
Жангліруем у трумах.
Шчэ сонца не свяціла,
А пот,—
Што ў Каракумах...
Падлічыць мудры вечар
Плады з далёкай Ганы,—
Узыдзе месяц
Млечным
Спакуслівым бананам.

## ШЫННІЦА

Ад Амура,
Да Ружанаў
Рэха кружыць:
— Жа-на!..
Жа-на...
А яна
Жыве ў Бабруйску,
Маладая беларуска.
Часам
Шчыра усміхнецца,
Ёкне аж у хлопца
Сэрца,
Калі раняшняй сцяжынкай
На Бабруйскі крочыць
Шынны...

Не за ўсмешку ёй пашана,
Тут —
Ударніцаю Жана.
Гэта ёй
З дарог краіны:
— Жа-на...
Жа-на!..—
Шэпчуць шыны.

## СТУДНЯ

Спрадвек
Яе вядру
Ныраць у звонкай стыні.
Бо кажуць:
Не к дабру,—
Як стрэнуцца з пустымі...

* * *

Прысутнасць адсутнага...
Нерухомага рух.
Дарога хіснецца —
Слізкая...
Успаміны...
Нібы ўзлез на гару:
Далёкае —
Стала блізкім.

## НЯМАЯ ЗЯЗЮЛЯ

(Балада)

### 1

Ты бяжыш уранні
І барам крычыш:
— Гэй, зязюля-пані,
Шчасце падлічы!..
Салаўіны пошчак
Напаўняе ціш
Аж да самай Польшчы.
А яна — маўчыць...

*

Рэха, нібы казуля,
Пераскочыла крык:
— Можа,
гэта зязюля
Праглынула язык...
Ад яе не ўкрасці
Ні трывог,
ні тугі.
Пашукаем жа шчасця
У зязюляў другіх...
Хай сядзіць адзінока
На трухлявай сасне.
Падміргнула мне вокам
І растала,
як снег...
Ды грудок
ля сасонкі
У маўчанні замёр...
Таямніцы старонку
Перагортвае бор.

2

Жыў на свеце юнак малады
Сярод лесу,
А побач — зязюля...
І не зналі ніколі бяды.
І не чулі...
Ведаў ён, дзе якая трава,
Ці надрэз у якое сасонкі.
А над ім
Яе кліч шчыраваў —
Звонкі-звонкі...
Ад бароў
Да сяброў не спяшаў
Хіба ён выпадкова?
Не зязюля была —
А душа
Леснікова...
І сустрэне штораз на зары,
І праводзіць — штоночы...
Толькі лёс паказаў кіпцюры
Ім аднойчы...

*

Ён маўчаў...
Ён зацята маўчаў,
Да сасны прывязаны.
Гыркаў вораг:
— Ну, рус, отвечаль:
Партизан ты?..
Ён маўчаў...
Ён упарта маўчаў.
Толькі хрыпла зязюля крычала.
Адчуваў халадок ля пляча
Аўтаматнага джала...
Ён не выдаў нікога з сяброў,

Хоць так мала пражыта...
І застаўся навек між бароў,
Перунамі прашыты.
Грымнуў стрэл...
Затуманіўся дым.
Неба ўміг — пацямнела...
Не забілі зязюлю тады —
Назаўжды
З той пары анямела...

3

Я стаяў у світальным бары
І пачуў, што другія не ўчулі...
Вы ніколі не слухалі крык —
Той —
Нямое зязюлі?..

* * *

На сэрцы — так горка,
Журботна-палынна...
Магіла салдата
Пад горкай калінай.
Маўчанне...
Жалоба
Схіляецца нізка.
...І гронка, як зорка,
Гарыць на галінках
Святлом абеліска...

## БЕЛАРУСІ

...Калі ты — гэта я,
Калі я — гэта ты?
Леанід Дайнека

1

Будуць зноўку вітаць
Тваіх белых буслоў.
Будуць зноўку шаптаць
Табе вырai слоў.
Я не буду, прабач,
Гучных слоў гаварыць.
Захлынуся, як плач
Белавежскіх зубрых...

2

Ці не крэпасць твая
Пасылае байца,
Што напіцца паўзе,
Як тады,
З Мухаўца...
Ён паўзе праз агонь,
Праз пушчы,
Гады...
Гукі —
З каскі яго —
Жыватворней вады...

3

Будзе звонка вясна
Капяжамі звінець.
Будзе нема стагнаць,
Як хатынская медзь...

Хто крывінка твая —
Усвядоміш тады,
Калі Ты —
Гэта я...
Калі я —
Гэта Ты...

## СУРМА

Памяць развярэджана,
Пэўна, нездарма:
Вечнасцю засведчана
Спеўная сурма.

Выцятую скрухаю
(Слёзанькі з павек!),
Са здзіўленнем слухае
Зорны чалавек.

Сыдуць будні святамі,—
Толькі не маўчы.
З песняю сасватаны
Сурмачы...

## ЗЭЛЬВА

Яшчэ прабабкі, мусіць,
Шукалі лекі ў зеллі.
Лістотай захлынуся
У зеляніне:

— Зэль-ва...
Вятры вякоў заснулі
На сцішанай галінцы.
Не хлебам-соллю,—
Куляй
Прывеціла чужынцаў...
Размашыстая ўлада
Касы́ —
Не размінуцца...
На вербы азірнуцца —
Сівая, як балада...
Усім: душой і целам —
Ты з ім,
Касцом вясёлым.
Расшпілена нясмела
Двухшпілевым касцёлам.

## НА ПАЛЕССІ

*Міколу Мятліцкаму*

Цеплынёю пралескі
Апаліла, няйначай,
Шчырасць вёскі палескай
З дзіўным іменем —
Бабчын.
Нашы кубкі асушым:
— За зямлю!..
— За гасціннасць!..
Расчыняюцца душы,
Нібы дзверы хацінаў...
Чібы сват зяхмялелы,
Заінелы,

Ля Хойнік —
З ручнікам снежна-белым
Сустракае бор хвойны.
— Хай дарога — прамая!..
— Хай нябёсы — без дымкі...
Нас Палессе прымае,
Як сыноў — у абдымкі...
Не зайздрошчу таму,
Хто ніколі не бачыў
Шчырасць вёскі палескай
З дзіўным іменем —
Бабчын...

## КУЗЯРЫ

Неба кратаюць бары
Ля азерца лужыны.
Сярод лесу —
Кузяры —
Хутарок залужаны.
Сірацеюць хутары,
Сходнямі не рыпаюць.
Дзед цыгарку закурыў:
— Быццам хворы... грыпаю!..
Заскуголіць уначы
Поезд — не да вэрхалу...
Нават рэха прамаўчыць,
Што не пераехала.
На Камчатку з'ехаў сын —
Далеч несагрэтую...
Дагарае успамін
Мокрай цыгарэтаю.

* * *

Клін, асмужаны,
Галосіць.
Тухне выцвілы блакіт.
І сама набракла восень
Шэптам спуджаных ракіт.

Вырай цягнецца ў нябёсы
І плыве, нібы ў рацэ.
...У бярозкі сумнай,
Босай,
Дождж —
Ці слёзы на шчацэ?

* * *

Ты стаіш ля прысад
У асеннім палоне,
І ляціць лістапад
Залаты у далоні.

Вечарэюць лісты.
Ды світаць вачанятам,
Дзе пасеяла ты
Веснавыя зярняты.

Хай гадоў лістабой
Не палохае восень.
Яравою сяўбой —
Зноў яны ўскалосяць.

І раскрыецца тым
Іх сакрэт адмысловы:
Зашумяць, як жыты,—
Спаконвечныя словы...

Ты стаіш ля прысад
У асеннім палоне,
І ляціць лістапад
Табе проста ў далоні...

* * *

Вандраванняў нязгасны шал
У крыві і ў целе.
Толькі шынны арнамент шаша
За экспрэсам святочна расцеліць.
Адцвілі, як трывог маякі,
Зоры вокан
У памятнай Оршы.
Дзе чыталі —
Сябе —
Дружбакі,
Даланямі галовы падпёршы.
Дзе чыталі другіх —
Чытачоў —
Па вачах і усмешках.
Бы «Лявоніху», ці «Крыжачок»
Вытанцоўвалі вершы...
Спадзяванняў ручай аплытчаў
Утравелаю Вячай.
...За акном
Рэдакцыйны прычал
Адзінока маячыць...

## ПАЎНАЛЕЦЦЕ

Дрымотны лес загу́шкае
Вясёлае дзяўчо.
Ёй неба сіняй птушкаю
Садзіцца на плячо.
Плыве, здаецца, з кошыкам
Насустрач верасам.
Так колка, быццам вожыкам
Зрабіўся ў момант сам.
Позірку спакуснага
Мне не пабароць.
Дакрануцца б вуснамі
На хвілінку хоць.
Хмары нанач спыняцца
У познім гушчары...
Будзе імяніннiцай
Заўтра на зары.

## ЗАРАПАСЫ

Ціха-ціха...
Вёска спіць...
Вы не пабудзіце.
Развінае маладзік
Залатыя ніці.

Заблудзілі да зары
З любаю сам-насам.
Ахрысцілі плеткары:
— Зарапасы!..

У зялёны травастой
Будуць зоры падаць.
У траве густой-густой
Заблудзіцца рады.

А каханне да зары
Ходзіць самапасам.
Ахрысцілі плеткары:
— Зарапасы!..

Перад намі — юны май,
Вывадак шпачыны...
І няхай завуць, няхай:
Мабыць,—
Ёсць прычыны!..

* * *

Толькі лета адышло,—
Вось і песня ўся.
Увабраў яе цяпло
Выраю касяк.

Я забыцца не магу
Тыя песні ўсмак.
Стагаваў маю тугу
Зэльвенскі зямляк.

А сягоння:
Дзень ці ноч —
Мне не зразумець.
Толькі звоніць за сцяной
Лісцяная медзь...

Узнялося на камлі
Дрэва завірух...
Першы снег абняў палі —
Ці апошні пух?..

## ВОСЕНЬ

Ты ізноў
Асмужыш вочы.
Боль не зможаш загаіць,
Калі я, журботны,
Крочу
Па расхрыстаным гаі.
Цьмянасць фарбаў,
Рухаў вяласць.
Блёклы колер верасны.
...І здаецца:
Сэрца стала —
Да наступнае вясны.

* * *

Віною тут не буралом!..
Відаць, чарсцвеем душамі:
Крычыць (ірвемся напралом)
З-пад ног гаёк раздушаны.
Прасекі гонім пад шашу.
Карчуем лес машынамі...
А дзе падзецца мурашу —
Пад энтээра шынамі?..

* * *

Мо гэта —
Зусім не ты
Мне снілася веснім
Раннем?
Мо пісьмы твае —
Лісты,
Апаўшыя
З дрэва кахання?..

* * *

Духмяны,
Спеўны,
Звонкі
Абсяг твайго сяла.
Ты тут —
Лясной сасонкай
Прабіўся да святла.

А тут наўкол саснова,
Бярозава наскрозь...
Жыцця першаснова —
На «Р»:
Радзіма...
Рось...

Магчымасць асэнсоўвай
І мусіш зразумець:
У нерушы сасновай —
Табе вякі звінець...

## БАЛАДА АБ РУЖЫ

Недзе ты
Цвіцеш мая —
Ружа несарваная.
Лепей бокам
Абыду,
Каб не трапіла
Ў бяду.
Ой, ёй — абыду...
Ля прасёлачных
Дарогаў
Сустракаў я ружаў
Многа.
А такая, як яна,
На зямлі усёй адна.
Ой, адна...
Гляну ў вокны
На дасвецці:
Асыпае восень квецень.
А яна
Ярчэй гарыць
Ад рабінавай зары.
Ой, гарыць...
Праляцела
Год нямала,
Гора ў госці завітала.
Прастагнала
Мне трава:
— Нехта ружаньку...
Сарваў...
Ой, сарваў...
Недзе ты
Была мая —
Ружа несарваная.

## СКАРЫНАЎ КУТ

Неаддымна
Да сонца цягнуў
Распрасцёртыя з цемрадзі рукі.
Хіба знали сабе цану
Берасцяныя першадрукі?..
Не, не зналі!
І ён не знаў,—
Звалунелы,
Зубрына-гарбаты...
...Як стагоддзі назад,
Вясна —
Буслянее над роднай хатай.

* * *

Хай сабе яшчэ не лес —
Сярод пнёў і трэсак
На калені сонцу ўзлез
Малады падлесак...

## НАРАЧАНЦЫ

У вачах тваіх плешчацца Нарач
І струменіць дрыготкім святлом.
Ты была —
Мая песня і мара,
Што ўздымае ў душы крыгалом.

Валасоў прамяністых калоссе
Я збіраў у далоні не раз...
І чаму трэцім лішнім —
Восень
Перайшла паміж нас?..

## ПА СОНЦА

Пад неба сіні парасон
Спяшаешся на золку
Пакратаць вуснамі азон
Зялёнага пасёлку.

Ты любіш,
Ведаю даўно,
Калі ў вачах азёрных
На свет праклюнуцца
Святлом
Праменні — неба зёрны...

А хочаш —
Сонца прынясу
У кошыку бяздонным
І запляту табе ў касу,
Палеская мадонна?..

...Ледзь сонца
Чэрпае каўшом
Вялікая Мядзведзіца,
Бягу з бярозавым кашом:
— Дазвольце —
Прысуседзіцца!..

* * *

Чыя,
Чыя Джульета —
Не ведаю.
Але...
Чаму, нібы ад лета,
Хмялею я
Ад «Ле...»
Хаця зіма навокал,
Хаця вакол снягі...
Хаця ў цябе далёка,
Напэўна, ёсць другі...
Спатканням выпадковым
За шчасцем не хадзіць,
Калі вісіць падковай
Над намі маладзік...
А ты ізноў — далёка...
І я ізноў — другі...
Павіс
Бусліны клёкат
Хмурынкаю тугі.

* * *

Маладая праваднiца,
Не па ўзросту строгая,
Запрашае парадніцца
З ветрам і дарогаю.

А цягнік ёй патакае,
Коламі — цік-такае.

Чырванее, трапяткая,
Што пялёстак макавы...

Яшчэ доўга будзе сніцца
Музыка вагонная.
Маладая праваднiца,
З песняй заручоная...

* * *

Маторка.
Рэчышча
І ты...
Няўмольна,
Незваротна,
Што плынь
Той прыпяцкай вады —
За дальнім паваротам.

Крылом пасечаны прасцяг
Блакітна-успамінны,
Як парашут...
І шум трысцяг
Парывісты,
хвілінны...

Не знаю,
Можа, ад тугі
Ўсё выдумалі самі...
Чаму
Так пахнуць трыснягі
Тваімі валасамі?..

* * *

Зялёны шум,
Вясновы шум
Раскалыхаў
Тваю душу...
Агнём палалі клёны,
Зялёным,
Як зямля...
І ты — застыў,
Здзіўлёны,
Нібыта немаўля.
Піў свежы водар поля,
Чаромхавы разліў...
І словы — мімаволі
Радкамі прараслі.

## ПЕРШААДКРЫЦЦЁ

Пах прагорклы палыну
І смуга надрэчча.
Яблык поўні
Праглынуў
Цёмнатвары вечар.
Як зярняты,
Верабей
У люстранай лужы
Зоркі, спелыя дзяўбе,
Літыя са сцюжы...

* * *

Вялі
адступнікаў на плаху.
Курэла мокрая кара...
Таго стагоддзя апранаха
Цяпер
падлетку акурат.

А маладзік
(Не да Ярылы!..)
Драмаў акрайцам аржаным.
Вясны
натомленыя крылы
Ўначэлі,
Нібы кажаны...

Мы зразумелі вельмі проста:
— Вайны не трэба на зямлі!..
Вайну наступнікі
Узростам,
Нібы гульню,
Перараслі.

## ВОДГУЛЛЕ

(Лірычны рэпартаж)

*Памяці камсамольца Міхаіла Мароза*

Да бою, што нам невядомы,
Далучаны векам штодня...
Алесь Разанаў

### Уступ

Зямля,
Табе балесна
За попел гарадзішчаў.
Удовіная песня
Кульгае па іржышчы,
Прастрэленая болем
Матуліным
Спрадвечным.
...А там —
На мінным полі —
Забрала бацьку
Вечнасць...

* * *

Агоркла немаўлятам
Дзяліць свой лёс сірочы...
Што нам, сынам салдатаў,
Зязюлі напрарочаць?..
...І сёння — забіваюць,
Хаваючы за даты.
Слязой
Журбы збываю
Задатак...
А памяць есць, Хатынь,
Твой едкі дым...

Па-сёння
Смерці рэха
У далях адгукнецца
Сваім звярыным
Смехам —
І стане менш —
На сэрца...
•

**Водбліск**

Мы родам — з пяцідзесятых.
З пяцідзесятых, цалінных.
У глебу, нібы зярняты,
Засыпаны успаміны.
Спазніліся з нараджэннем?
Ці сёння аб подзвігах марыць?..
Ці варта
Няпоўная жменя
Дзвюх, поўных цяжару?..
А тут жа далёкі прашчур,
На гістарычным улонні,
І грудзі каханай лашчыў,
І меч перамогі далоніў.
А тут скрыгаталі танкі,
Палалі агнём не рабіны...
А потым —
Толькі астанкі...
А потым —
Толькі руіны...
Мінулае прыгадаем —
Балюча і нам, і бярозам.
Даўно зарунелі жытамі
Танкавыя барозны...
Тут войны даўно утравелі
Пад збуслянелы клёкат...
У памяці ацалелай

(На варце стаяць абеліскі)
Пульсуюць рэхам далёкім.
...А часам —
І блізкім-блізкім...

### Зямля бацькоў

Жыццё,
Жыццё,
Калі нас
Ты кінеш на прарыў?..
Крывавая каліна
Ускіне кіпцюры
Над перасохлым горлам
Нясправуджаных надзей...
...Яшчэ лісток адгорне
Для нас руплівы дзень...

* * *

Ажно расеюць робы,
Прамоклыя наніт.
Нашчадкам хлебаробаў
Зямля бацькоў —
Магніт...
З калыскі і да скону
Дзяды расілі лоб.
Вышэй усіх законаў
Для іх жытнёвы сноп...
Хіба душой забыта
Стагоддзяў адкрыццё,
Што сэнсам слова
«Жыта»
Напоўнена
«Жыццё»?..

**Снарад**

Камсамолец Міхаіл Мароз загінуў на бульбяным полі, ратуючы жыццё таварышаў...

Дзіравае неба
Зала́тае вечар.
І кроплі прылепяць
Кашулі да плечаў.
І поўня ўсміхнецца
Наступнікам працы...
Збіраецца вецце
Ільдзінкамі брацца...
Але гэта потым,—
Без Міхала будзе...

. . . . . . . . . . . . . .

...Шчыруе работа
У трактарным гудзе.
...І раптам,
Як міна,
Зусім нечакана
Вайны напамінам —
Закрэслен...
Вулканам...
Яго нараджэнне
Штовеку —
Загадка...
...Тваё прадаўжэнне —
У справах нашчадкаў...

* * *

Ты ПЕРШЫ
Скіраваў той крок
У бессмяротнасць
Па смертаноснаму полю

Свайго жыцця...
Па полю
Маёй незагойнай ПАМЯЦІ...
Ступіў першым
У ПОДЗВІГ,
Каб захаваць апошнім
Самае дарагое —
ЖЫЦЦЁ...
Здрадлівы выбух...
Ён грымнуў так нечакана...
А ты непахісна
Застаўся стаяць
У маёй ПАМЯЦІ
Са снарадам,
Вынесеным з поля
Майго болю...
Ты не мог інакш!..
Міша...
Слязіна ўдзякі
Сагрэла
Застылыя твары сяброў,
Дастойных
Твайго ўчынку.
Але ТЫ —
Першы
Заступіў дарогу смерці,
Засланіўшы сабою іншых...
Мне часам здаецца,
Што у маім целе
Сядзіць асколак
Таго снарада...
Мабыць, гэта ён
Абрывае ніці маіх сноў
Водгуллем
Нясцерпнага болю...
Болю зямлі...

## Памяць

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Міхаіл Мароз узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі — пасмяротна... Яго імя навечна занесена ў кнігу Гонару рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі...

Ён быў маім равеснікам...
«Хуткая дапамога»,
Твая дапамога бяссільна...
У маці не будзе
Другога,—
Такога...
Сына...
Цяжка са смерцю змагацца.
Забыццё —
Як бязважкасць...
А як жа памерці цяжка,
Калі табе — васемнаццаць...
Калі жыццё — на пачатку
Раскрылена у зеніце.
Калі пульсуюць начамі
Мараў зарніцы...
Прыйдуць сюды піянеры
Подзвігу пакланіцца.
...А я не магу —
Паверыць.
А я не магу —
Забыцца...
Рэха вайны далёкай
Узнялося на дыбы...
Глухне бусліны клёкат
Словам-выбухам:
«Быў!..»

## Роздум над фотаздымкам

Гляджу:
Сур'ёзны выраз твару.
Пагляд тваіх вачэй,
Жаўрук...
Тваю затушаную мару
Раздзьмуць другія,
Як зару...
А дзень супыніцца на ганку
І доўга будзе варажыць
Старой зязюляю-цыганкай
Паміж ступаненых сцяжын:
— Ці жыў?..
Ты жыў?
Ці жыў...
Мой векапомлівы равеснік,
Ля стромаў вечнага Дняпра
Ты —
Навароджаная песня
Даўно забытых перапраў.
Ты даказаў жыццём,
Наступнік
З маёй бязвоблачнай Вясны,
Што —
Між мінулым і наступным —
І я таксама,—
Сувязны...
Таму ўдвайне нясу адказнасць
За хуткаплынны часу бег:
Мне працаваць
Пад небам ясным —
І за сябе,
І за цябе...

* * *

Не, мы паспелі
Нарадзіцца
У найгарачы самы час,
Калі калышацца пшаніца
І завіхаецца «БелАЗ».
Калі расее піларама,
Грызучы хвойную тайгу.
Калі стальныя рэйкі БАМа
У наша заўтра пабягуць...
Мая бясконцая Радзіма,
Куды б ні кінуў лёс ізноў,
Ты ад мяне неаддзяліма,
Як вера,
Праўда,
І любоў...
Хаця да зораў паляцелі,
Аб Ёй —
Галоўны клопат наш...
І ты жывеш
Радзімы дзеля.
Дзеля цябе —
Жыве Яна ж...

ЗМЕСТ


*** Пазычу колеры ў вясёлкі... . . . . . . . . 5
Успамін . . . . . . . . . . . . . . . . 5
*** Мне зноў на хвілю... . . . . . . . . . . 6
Белая лілея . . . . . . . . . . . . . . 7
*** Застылі... . . . . . . . . . . . . . . 7
*** Упушчана шчасця жар-птушка... . . . . . . 8
Грыбасей . . . . . . . . . . . . . . . 8
Суладдзе . . . . . . . . . . . . . . . 9
Бярозаваму гаю . . . . . . . . . . . . . 10
Зяльвянка . . . . . . . . . . . . . . . 11
*** Для равеснікаў... . . . . . . . . . . . 11
Родная мова . . . . . . . . . . . . . . 12
Дуб . . . . . . . . . . . . . . . . . 13
*** Усё бліжэй да мамы... . . . . . . . . . 13
*** У лесе цішыня такая... . . . . . . . . . 13
Мацярынская вера . . . . . . . . . . . . 14
Славянкі . . . . . . . . . . . . . . . 14
На Бярэжкаўскім возеры . . . . . . . . . . 15
*** Усімі травамі прапах... . . . . . . . . . 16
*** Я не магу... . . . . . . . . . . . . . 16
Апраўданне жыцця . . . . . . . . . . . . 17
*** Нас два гады чакаюць тоні... . . . . . . . 17
На пасту . . . . . . . . . . . . . . . 18
*** Ці дождж, ці пот... . . . . . . . . . . 19
На вучэннях . . . . . . . . . . . . . . 19
*** Адкрываем сябе... . . . . . . . . . . . 20
*** Зялёны скарб... . . . . . . . . . . . . 20
*** Ля Бендэраў... . . . . . . . . . . . . 21
Сустрэча з морам . . . . . . . . . . . . 21
Трэці семестр . . . . . . . . . . . . . 22
Васілю Скарыне . . . . . . . . . . . . . 23
Порт. Разгрузка бананаў . . . . . . . . . . 23
Шынніца . . . . . . . . . . . . . . . . 24
Студня . . . . . . . . . . . . . . . . 25
*** Прысутнасць адсутнага... . . . . . . . . 25
Нямая зязюля (балада) . . . . . . . . . . 26

*** На сэрцы — так горка... 28
Беларусі 29
Сурма 30
Зэльва 30
На Палессі 31
Кузяры 32
*** Клін, асмужаны... 33
*** Ты стаіш ля прысад... 33
*** Вандраванняў нязгасны шал... 34
Паўналеццe 35
Зарапасы 35
*** Толькі лета адышло... 36
Восень 37
*** Віною тут не буралом... 37
*** Мо гэта... 38
*** Духмяны... 38
Балада аб ружы 39
Скарынаў кут 40
*** Хай сабе яшчэ не лес... 40
Нарачанцы 40
Па сонца 41
*** Чыя... 42
*** Маладая праваднiца... 42
*** Маторка... 43
*** Зялёны шум... 44
Першаадкрыццё 44
*** Вялі адступнікаў на плаху... 45
Водгулле (лірычны рэпартаж) 46

Мазго Ул.
М 13 Пад спеў крыніц: Вершы і балады.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 55 с.— (Першая кніга паэта).
20 к.

Студэнцкія гады, праца ў раённай газеце, салдацкія будні — усё гэта за плячыма лірычнага героя гэтага зборніка. Аўтар малады, але яму ёсць пра што расказаць чытачу. І паэт гаворыць пра ўсё тое, што ён бачыў, адчуў, перажыў, пранікнёна і ўсхвалявана.

М $\frac{4702120200-060}{М\ 302(05)-82}$ 76—82

ББК 84 Бел7
Бел2

*Первая книга поэта*

Владимир Минович Мозго

ПОД ПЕНИЕ РОДНИКОВ

Стихи и баллады

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Ю. В. Пучынскі. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар А. А. Бачанкова.

ІБ № 1279

Здадзена ў набор 29.12.81. Падп. да друку 12.03.82. АТ 06522. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк.-арк. 2,05. Ум. фарб.-адб. 3,51. Ул.-выд. арк. 2,11. Тыраж 4000 экз. Зак. 2213. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.